Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 12 лютага 1932 г. № 6 (31)

## Популярна-навуковыя лекцыі
ладжаныя Лекцыйнай Камісіяй Беларуск. Навук. Таварыства.

Праграма на месяц люты:

У нядзелю, 14 лютага — лекцыя інж. АНТ. ТРЭПКА
на тэму: **Цуды тэхнікі.**

У нядзелю, 21 лютага — у 10-ыя ўгодкі сьмерці Ядвігіна Ш.—лекцыя ХВ. ІЛЬЯШЭВІЧА
на тэму: **Жыцьцё і творчасьць Ядвігіна Ш.** (Антона Лявіцкага)

У нядзелю, 28 лютага — лекцыя УЛ. САМОЙЛЫ
на тэму: **Аб беларускім мастацтве**

Лекцыі чытаюцца ў Салі Віленскае Беларускае Гімназіі (ВОСТРАБРАМСКАЯ 9).

Пачатак у 4 гадз. вечара —) (— Уваход вольны і бясплатны.

## Далучэньне Навагрудзкага ваяводзтва да Віленскага.

У часе соймавае дыскусіі над бюджэтам міністэрства ўнутраных спраў выступіў з прамовай пасол з ББ праф. Станевіч, з Вільні (б. міністар). Паміж іншым, прамоўца выставіў дамаганьне, каб урад чым хутчэй правёў злучаньне Навагрудзкага ваяводзтва з Віленскім—з цэнтрам у Вільні.

Гэтае слушнае дамаганьне, якое хутка мусіць быць зьдзейсьнена, мы з свайго боку можам дапоўніць трэбаваньнем, каб і рэшта беларускіх земель, якія сягоньня ўваходзяць у склад ваяводзтваў Палескага і Беластоцкага, былі гэтак сама далучаны да віленскага цэнтру.

## Праўда аб школе.

З таго мамэнту, як урад падаў у Сойм законапраект аб рэформе школьніцтва ў Польшчы, падтрымліваючая яго прэса стараецца абсняваць гэтае в. радыкальнае пачынаньне, востра крытыкуючы ўсю сучасную пастаноўку школьнае справы. Пры гэтым сьцьвярджаецца і ўсё тое, што некалі закідала польскаму школьніцтву на нашых землях беларуская радыкальная прэса, сьцягіваючы на галовы сваіх рэдактароў часта вялікія „няпрыемнасьці“...

Гэтак орган абшарнікаў „Słowo“ ў № 27 сьцьвярджае ў самай рашучай форме, што *пастаноўка працы ў народных школах („повшэхных“)—вельмі благая. Толькі ў рэдкіх, выключных выпадках польская ўрадавая сямігодка можа падгатаваць дзіця да паступленьня ў III клясу гімназіі.* Дый сямігодак—вельмі мала: „немагчыма — дзеля нястачы грошы—з'арганізаваць патрэбную лічбу навет двуклясовых повшэхных школ, — аб сямігодніх і лятуцець нельга!“ А тыя двуклясоўкі, якія ёсьць, пастаўлены гэтак, што *прыходзіцца сустракацца з наўторнай няграматнасьцяй у дзяцей, скончыўшых гэныя школы і пасьля — забыўшых усё, чаго іх вучылі...*

Ня дзіва—дадамо адсябе: *навучаньне беларускіх дзяцей у незразумелай для іх польскай мове пры поўным выключэньні мовы роднай — беларускай* (вучыцялі, здаралася, мусілі паразумявацца з сваімі вучнямі праз перакладчыка!) *не магло даць іншых вынікаў...* Але аб гэтым польская прэса ўпарта маўчыць!

Не дагаварывае польская прэса ўсяе праўды і аб урадавых сярэдніх школах (гімназіях), якіх *„набудавалі неяк дзівачна“*. Школы гэтыя *„стаяць пераважна на вельмі нізкім роўні“*, — піша „Słowo“. І ня дзіва, — скажам ізноў ад сябе. Бо-ж, як і пры арганізацыі ніжэйшых школаў, тварцы нялічанае колькасьці польскіх урадавых гімназіяў на беларускіх землях кіраваліся *чыста палітычнай мэтай*: чым хутчэй спольшчыць усіх беларускіх дзяцей — дый не на паперы (як у часе сьпісу насяленьня!), а—на дзеле. Задачай польскіх гімназіяў на нашай тэрыторыі сталася буджэньне ў тутэйшай моладзі, пераважна беларускай, польскага нацыянальнага пачуцьця, „ачаровываньне“ гэтае моладзі „пышнасьцяй“ і „панскасьцяй“ польскае культуры і адрываньне ад „мужыцкае“ Беларусі. Толькі ж *запраўднае культуры* якраз гэтыя гімназіі не давалі... У выніку гэтага—*„моладзь, якая атрымала сярэднюю эдукацыю, у жыцьці зьяўляецца незараднай, а да вышэйшае навукі — зусім не падгатавана“*...

Які з гэтага вывад? — Той, што *нельга будаваць школьніцтва ў нашым краі дзеля чыста палітычных мэтаў і на чыста палітычных падставах.* Такая школьная палітыка, як бачым, *скандальна збанкрутавала.* І калі ўрад, праводзячы сваю школьную рэформу, паважна гаворыць аб тым, што „падставы арганізацыі школьніцтва маюць аблягчыць дзяржаве арганізацыю ўзгадаваньня і навучаньня агулу на сьведамых сваіх абавязкаў і творчых грамадзян Рэспублікі, а гэтым грамадзянам забясьпечыць найвышэйшае маральнае і ўмысловае разьвіцьцё і даць найлепшую падгатоўку да жыцьця“,—дык *за падставу школьнае рэформы на беларускіх землях мусіць быць пакладзена навука ў роднай, беларускай мове.* Інакш—і зрэформаваная школа будзе выглядаць у нас акурат гэтак сама, як выглядае цяпераш няя.

Стварэньне роднае нам *беларускае школы* наагул было і будзе *цэнтральным пунктам дамаганьняў усяго беларускага грамадзянства.* Без зьдзейсьненьня гэтага дамаганьня справа *чыста пэдагогічная*, вырашаная позытыўна ўсім культурным сьветам (—навука ў матчынай мове), у нашых варунках *ператвараецца ў палітычны лёзунг*, які стала знаходзіцца ў *непрымірымай супярэчнасьці з „настаўленьнем“ усяго польскага дзяржаўнага жыцьця.* Ці карысна гэта для дзяржавы? На гэтае пытаньне няхай знойдуць адказ самыя польскія дзяржаўнікі...

# БЮДЖЕТ У СОЙМЕ.

4 лютага ў Сойме распачалася штогодная бюджэтная дыскусія.

Сойм працуе ўсьцяж, так сказаць, „на два пастава“. Да паўдня ідзе праца ў радзе камісіяў над важнейшымі законапраектамі—аб перабудове школьнай сыстэмы, аб новым самаўрадавым ладзе, аб рэформе констытуцыі. Ад паўдня ідзе ў нячувана шпаркім тэмпе разгляд бюджэту на плєнуме Сойму. Запраўды-ж: уся агульная дыскусія—разам з дакладам генаральнага дакладчыка бюджэту і з прамовай мін. скарбу — заняла ўсяго 8 гадзін... Такога рэкорду яшчэ, здаецца, ня ведае парляманцкая гісторыя сьвету.

У сваім дакладзе генар. дакладчык п. Медзіньскі сьцьвярдзіў, што бюджэтная камісія нязначна зьмяніла паданы ўрадам бюджэт, зьменшыўшы як даходы, таксама і выдаткі ў ім. Адвак, ня гледзячы на гэта, бюджэт выйшаў і з камісіі з значным недахопам—74 з паловай мільён. зл. Праўда, недахоп гэты становіць толькі каля 3 прац. усей бюджэтнай сумы, але, як падчырківалі ўсе у часе дыскусіі, гэта першы бюджэт за апошнія гады, які наперад прадбачыць недахоп — дый такі нявыважны.

Але справа ў тым, што навет з такім значным дэфіцытам (недахопам) бюджэт, як гэта прызнаў і сам дакладчык, і востра падчырківалі ўсе аратары апазыцыі, ня можа лічыцца рэальным. Гэта значыць, што няма пэўнасьці, што на ўсе паказаныя выдаткі ўдасцца сабраць прадбачаныя даходы. Дакладчык бюджэту выразна казаў, што трэба лічыцца з нябывалым спадкам падаткавай здольнасьці вялізарнай масы насяленьня, дый што таму — ня толькі нельга будзе закруціць падатковую шрубу з усей патрэбнай жорсткасьцяй, але наадварот — урад змушаны будзе зрабіць падатнікам „рад значных палёгкаў, каб недапусьціць да руіны варштатаў працы“.

Закідалася ў дыскусіі бюджэту і яго „непразрыстасьць“, гэта значыць цяжкасьць для парляманту разабрацца ў паданых лічбах і паддаць кантролю ўсю фінансавую гаспадарку ўраду ў цэлым. А гэта таму, што ўрад натварыў шмат так зван. „соцыяльных фондаў“ (як дарожны і інш.), а таксама асобных фінансава-гаспадарчых адзінак дзяр-

